ВЯСЁЛЫ 2013-ТЫ:




“СТАБІЛІЗЕЦ” ПРАЦЯГНЕЦЦА

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

ХТО Ў БЕЛАРУСІ

БАІЦЦА КАНЦА СВЕТУ?



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

20.12.12-09.01.13 г.

# АПОШНІ ЗВАНОК



**Лукашэнка ўчыніў чарговы пагром — гэтым разам на мінскім камвольным камбінаце.**

## КТО ДОВЁЛ ДО РУЧКИ?

*Кадравая сітуацыя ў нас зусім не такая вясёлая*

Гэтае прадпрыемства патрапіла ў шэраг праблемных. Апошнімі гадамі камвольны скарачае аб’ёмы вытворчасці, мае кепскія фінансавыя вынікі. Не дапамагла выправіць сітуацыю і дзяржпадтрымка. Летась страты камбіната склалі больш за мільярд рублёў, за дзесяць месяцаў бягучага года – ужо амаль 10 мільярдаў!

За гэта ад Лукашэнкі напоўніцу атрымалі і цяперашні дырэктар прадпрыемства — Святлана Стрыжак, і былы — Андрэй Мытнік. Апошні падчас візіту кіраўніка Беларусі прысутнічаў на камвольным ужо ў якасці намесніка старшыні канцэрна “Беллегпрам”.

— Вы довели предприятие до ручки? – абрынуўся на Мытніка Лукашэнка. — Вы знаете, что о вас говорят в вашем концерне? “Зачем его сюда взяли? Он ведь не принимает никаких решений! Никаких! И мешает другим работать. У него руки дрожат, он боится всех, а своим подчиненным запрещает к руководителю заходить даже: не лезьте, не идите. Он даже не читает документы, просит своих подчиненных: вы мне птички поставьте, где я должен почитать”.

Менавіта такіх безыніцыятыўных чыноўнікаў і выхоўвае існуючая сістэма. Таму прэтэнзіі Лукашэнка мог адрасаваць і сабе. Але самакрытычнасць — не самы моцны бок кіраўніка дзяржавы.

— То, что я здесь увидел, — это преступная безответственность. Ну как же так: разбитые стекла, холод такой — и женщины работают?! Здесь и Ладутько ходил, и Семашко, и Мясникович. Это преступление! И оно наказуемо, — заявіў Лукашэнка. І загадаў: — Руководителя концерна и бывшего директора, который провалил здесь все и которого он себе заместителем взял, выгнать с работы до вечера.

> “— Вам с Мясниковичем это последний звонок, — сказаў прэзідэнт, звяртаючыся да Уладзіміра Сямашкі. — Мне ваши оправдания не нужны!”

Таксама звольнены цяперашні дырэктар прадпрыемства. А на чарзе, згодна з заявамі Лукашэнкі, — кіраўніцтва ўрада.

Першы віцэ-прэм’ер Уладзімір Сямашка паспрабаваў апраўдацца тым, што ў такім жа стане знаходзяцца ўсе падобныя прадпрыемствы ў постсавецкіх краінах. Але Лукашэнка даў яму адлуп:

— Вам с Мясниковичем это последний звонок, — сказаў прэзідэнт, звяртаючыся да Уладзіміра Сямашкі. — Мне ваши оправдания не нужны!

## НА РЭЖЫМЕ РУЧНОГА КІРАВАННЯ

Звяртае на сябе ўвагу і незвычайная актыўнасць Лукашэнкі апошнім часам, і яе скіраванасць. Раней кіраўнік Беларусі наведваў у асноўным “перадавыя прадпрыемствы”, дзе можна было пакрасавацца, заявіўшы штосьці з разраду “вось якое харαство я зрабіў”.

*Заканчэнне на стар. 3*

**СА СВЯТАМ!**

Шчыра віншуем усіх сваіх чытачоў з надыходзячымі Калядамі і Новым годам!

**Жадаем у наступным годзе мець больш нагод для радасці і святкавання і, адпаведна, менш для смутку і расчараванняў.**

**Ніхто за нас не зробіць лепшым жыццё ані асобнага грамадзяніна, ані цэлай краіны.**

**Спрабуйце, набівайце непазбежныя гузакі, але ідзіце наперад.**

**Без аптымізму, упартых стваральных намаганняў і сілы волі нам аніяк не абысціся.**

**Усяго найлепшага ў 2013-м, дарагія чытачы!**

**РЭДАКЦЫЯ “ТІЦ”**



# ЦІ РЭАЛЬНА МЕЦЬ У 2013 ГОДЗЕ СЯРЭДНІ ЗАРОБАК 700 ДОЛАРАЎ?

Наколькі рэалістычны планы зрабіць беларусаў шчаслівымі, разбіралася “Тут і цяпер”.

**ЛЕАНІД ЗАІКА, ЭКАНАМІСТ:**

## “ПАКУЛЬ СЯДЗІМ НА ДЗВЮХ ТРУБАХ, МАГЧЫМА ЎСЁ”

— Сабе яны абяцаюць. Гэта добра. Для іх гэта рэальна. Але справа ў тым, што зарплата ў сталіцы звычайна на 30 працэнтаў вышэйшая, чым па краіне. У сталічных жыхароў даходы працэнтаў на 30 большыя, чым у іншых населеных пунктах. Гэта заканамерна для любой краіны. Таму, калі па краіне сярэдняя зарплата 500 долараў, то па Мінску яна павінна быць 650 долараў. Паглядзім у лютым статыстыку: ці была сярэдняя зарплата ў Мінску 650 долараў? Усё магчыма, калі 48 працэнтаў усяго экспарту краіны даюць дзве трубы. Адна труба знаходзіцца ў Наваполацку, другая — у Мазыры. Пакажыце мне яшчэ такую краіну, дзе палову экспарту даюць два прадпрыемствы. А ў нас такое магчыма. Уступілі ў Мытны саюз, купляем нафту па 400 долараў за тону, прадаём за 900 як нафтапрадукты. Краіна сядзіць на трубах А і Б. І з гэтага можна нешта павысіць. У нас з Расіяй дысбаланс 9 мільярдаў долараў. За кошт яго і павышаюцца заробкі. Уся Беларусь працуе: вырабляе мэблю, шые адзенне і гэтак далей. Але ўсё гэта толькі палова. Другая палова — нафтапрадукты. Улада так выбудоўвае адносіны з Расіяй, каб атрымліваць танную нафту, сядзець і радавацца.




*Заробак быццам бы расце, а падобныя лозунгі застаюцца*

**АЛЯКСАНДР ЧУБРЫК, ЭКАНАМІСТ:**

## “МЫ ГЭТЫМ ЗНІШЧАЕМ ЭКАНОМІКУ”.

— За чатыры кварталы гэтага года сярэдні заробак ужо аднавіў свой дакрызісны ўзровень. Атрымліваецца, што гэта быў вельмі хуткі рост, як у доларах, так і ў рублях. І ў рэшце рэшт: нягледзячы на тое, што ўрад спрагназаваў збалансаваны рост паказчыкаў сярэдняга заробку і прадукцыйнасці працы, у выніку атрымалася вельмі незбалансавана. Як ні вымерай, а сярэдні заробак павысіўся значна больш за ўзровень прадукцыйнасці працы. А на наступны год, калі мы паглядзім на афіцыйныя запланаваныя паказчыкі, ВУП павінен вырасці на 8,5 працэнта. Што такое рост ВУП на 8,5 адсоткі? Гэта значыць рост прадукцыйнасці працы. А рост сярэдняга заробку складзе 25—27 адсоткаў, калі будзе 700 долараў з улікам афіцыйнай 20-адсоткавай інфляцыі. Два гады запар такое разыходжанне паміж заробкам і прадукцыйнасцю стварае велізарныя праблемы для прадпрыемстваў і іх фінансаў, таму што заробкі пачынаюць займаць усё большую долю. А сёння найбольшая за апошнія 15 гадоў доля фондаў заработнай платы ў ВУП. Гэта значыць, што выдаткі прадпрыемстваў на заробкі зараз вельмі высокія. Калі сітуацыя і надалей будзе складвацца такім чынам, прадпрыемствы проста не выцягнуць. І заявы пра 700 долараў, нават у межах афіцыйных прагнозаў, увогуле патыхаюць вялізнымі праблемамі, як для прадпрыемстваў, так і для ўсёй эканомікі ўвогуле. Мы ўжо перажывалі такую сітуацыю ў далёкім 2001 годзе. Тады фактычна 40 працэнтаў прадпрыемстваў былі стратнымі. Калі зараз будзе прыменена ранейшая практыка, то нас чакае тое ж самае.

**ДА ВЕДАМА**

## МІНЭКАНОМІКІ АБЯЦАЕ Ў 2013 ГОДЗЕ ЗАРПЛАТЫ Ў 700 ДОЛАРАЎ.

Заяўлены ў якасці прагнознага параметра ў 2013 годзе рост сярэдняй зарплаты па краіне да 700 долараў у эквіваленце будзе выкананы. Пра гэта заявіў міністр эканомікі Мікалай Снапкоў. Паводле яго слоў, рэзервы для гэтага ёсць. Кіраўнік Мінэканомікі таксама адзначыў, што цяперашняга ўзроўню — 500 долараў у эквіваленце — нацыянальная эканоміка дасягнула без празмерных націскаў. Разам з тым ён паабяцаў змагацца з перавышэннем тэмпаў росту зарплаты над тэмпамі росту прадукцыйнасці працы.

“У прынцыпе, што тычыцца асобных прадпрыемстваў, то гэта дапушчальна, але ў цэлым па макраэканоміцы мы будзем адсочваць параметр з тым, каб дэльта была нязначная”, — заявіў міністр. Мікалай Снапкоў таксама сказаў, што 2013 год беларуская эканоміка павінна пачаць з рэзкага росту.

**ВЕРАНІКА БЯГУН, ЭКАНАМІСТ:**

## “У НАС УСЁ РЭАЛЬНА”.

— Заробак — гэта сабекошт прадукцыі. А паколькі галоўны наймальнік у нас дзяржава, то менавіта яна падымае сваім наймітам заробкі, і тады ў цэлым па эканоміцы расце кошт рабочай сілы. Да чаго гэта прыводзіць? Да павелічэння выдаткаў на выпуск нашай “лепшай у свеце” прадукцыі. І не таму, што заробак вялікі ці маленькі, а таму, што прадукцыйнасць працы ў нас вельмі нізкая. Людзі не зарабляюць тых грошай, якія атрымліваюць. Не таму, што яны павольна працуюць: павінна быць абсталяванне, матэрыялы, тэхналогіі. У ЗША сельскай гаспадаркай займаюцца 2% насельніцтва. І там не ведаюць, куды падзець усю сельгаспрадукцыю. У нас гэтым займаюцца ўсе, аднак нічога не атрымліваецца. Замест таго, каб займацца заробкам, трэба займацца эфектыўнасцю. “Уганяючы” ж грошы ў заробак, яны гэтую эфектыўнасць падрываюць. А з падрывам эфектыўнасці расце інфляцыя. Яны раскручваюць механізм загону эканомікі ў поўную задніцу. А ці рэальна зрабіць 700 баксаў сярэднім заробкам? У нас усё рэальна.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# АПОШНІ ЗВАНОК

Цяпер Лукашэнка дабраўся да праблемных заводаў — спачатку дрэваапрацоўчых, потым камвольнага.

Там ужо адбывалася зусім іншае шоу. Лукашэнка бэсціў і адміністрацыю прадпрыемства, і сярэдняе звяно, і ўрад: маўляў, усе навокал лайдакі, адзін я працаўнік.

Беларусь фактычна пераводзіцца на рэжым ручнога кіравання. Гэта пацвердзіў сам Лукашэнка, які заявіў: "Если президент не будет ходить по цехам и вникать в производственные процессы, значит, это не президент…".

Цяжка ўявіць сабе, напрыклад, Барака Абаму, які кантралюе вытворчыя працэсы на заводах карпарацыі "Боінг", або прэзідэнта Швейцарыі, што сноўдаецца па цахах мясцовай кандытарскай фірмы "Нэстле". Бо функцыі кіраўніка дзяржавы зусім іншыя: стварыць максімальна спрыяльныя ўмовы для ўсіх суб'ектаў гаспадарання, а не асабіста выцягваць з багны кожнага паасобку.

Менавіта таму людзі на Захадзе жывуць значна лепш, чым беларусы. Нам жа замест нармальных умоў для вытворчасці і бізнесу ўвесь час прапаноўваецца недарэчнае відовішча з пакараннем ахвярных казлоў шматразовага выкарыстання. Таму ж Мясніковічу апошняе папярэджанне ўжо выносілася шмат разоў, але ён па-ранейшаму займае пасаду прэм'ерміністра. Натуральна, рана ці позна цяперашняму кіраўніку ўрада давядзецца сысці. Але для таго, каб у краіне нешта ўсур'ёз змянілася, трэба, каб сышоў Лукашэнка.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ДОМ, ЯКІ ПАБУДАВАЎ МЭР

**Дом, дзе жыла сям'я былога мэра Гомеля Віктара Піліпца, зараз стаіць спусцелы. Следчыя арыштавалі маёмасць разам з яе гаспадаром. Як шыкаваў першы гарадскі чыноўнік, глядзіце ў нашым фотарэпартажы.**

## ПРЫГОЖА ЖЫЦЬ НЕ ЗАБАРОНІШ

Віктар Піліпец збудаваў сабе дом у гістарычным цэнтры Гомеля, па вуліцы Пралетарскай, 36. Мэрава рэзідэнцыя стаіць па суседстве з маёнткам колішніх гарадскіх гаспадароў — палацам Румянцавых-Паскевічаў, на адлегласці менш за 600 метраў. Адтуль рукой падаць і да набярэжнай Сожа — менш за 200 метраў.

На месцы цяперашняга ўчастка Піліпца раней стаяў будынак інтэрната для медыкаў. Калі ў 2009 годзе Піліпец прыйшоў да ўлады, інтэрнат знаходзіўся ў заняпадзе: медыкаў даўно рассялілі, а мясцовыя ўжо пачалі расцягваць будынак на цэглу. На гэтай пляцоўцы Піліпец і вырашыў збудаваць сваё радавое гняздо.

**ДАВЕДКА**

Віктар Піліпец утрымліваецца пад вартай з 19 верасня 2012 года. Следчы камітэт арыштаваў яго па крымінальнай справе, заведзенай на кіраўнікоў таго самага УКБ Гомельскага гарвыканкама. Былы мэр абвінавачваецца ў перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў па ч. 3 арт. 426 КК Беларусі.

Лічыцца, што Піліпец замешаны ў махінацыях з кватэрамі, якія будаваліся з прыцягненнем бюджэтных сродкаў для грамадзян, жыллё якіх падлягае зносу. Папярэдне ўстаноўлена, што 25 кватэр з парушэннем заканадаўства набылі работнікі УКБ, іх сваякі ды знаёмыя па кошце $20 тыс. замест $50 тыс.



*У былога гомельскага начальніка не такі быў катэдж, але ўсё роўна шыкоўны*

Самыя блізкія мэравы суседзі жывуць за 100 метраў праз дарогу. Адзін з іх не захацеў свяціць сваё імя, але з імпэтам паглыбіўся ва ўспаміны:

— Гэты дом пабудавалі ў рэкордныя тэрміны — за год ці меней. Участак агарадзілі, інтэрнат знеслі. На пашпарце аб'екта было напісана, што гэта жылы дом, замоўнік — Піліпец, а будавала УКБ (упраўленне камунальнага будаўніцтва) гарвыканкама. Хутка пабудавалі, бо ў іх грошы ёсць: і матэрыял, і тэхніка на руках. А мы са сваіх капеек будуемся, ніяк дах не накрыем. Вось так.

## ЖЫЦЦЁ НЕ ПА СРОДКАХ

Шыку і бляску ў знешнім выглядзе мэравага жытла не бачна. Усё прыстойна і з густам. Аднак тое, што жыллё не з танных, у вочы кідаецца. Будынак у шырыню мае 7 вокнаў, у даўжыню — 5. Агульная плошча ўчастка, паводле ацэнкі суседзяў, больш за 10 сотак.

Перад участкам свежа заасфальтаваная паркоўка для аўто гасцей, на слупе чамусьці вісіць дарожны знак "Уезд забаронены". Агароджа дабротная, з чырвонай цэглы, шырынёй сантыметраў 40. На аўтаматычных варотах вострыя пікі з бронзы.

Ва ўнутраным і знешнім двары папрацавалі рукі ландшафтнага дызайнера. У двары стаіць каваная садовая мэбля. Кошт адной лавы перавышае месячны заробак старшыні гарвыканкама.

Колькі атрымліваў мэр Віктар Піліпец, можна меркаваць па заробках яго калег. Так, напрыклад, старшыня Жлобінскага райвыканкама Леанід Апанасюк, які балатаваўся ў парламент і апублікаваў свой гадавы прыбытак, у 2011 годзе зарабіў 80 мільёнаў рублёў — гэта па 6,6 мільёнаў у месяц.

## "ХТО-ХТО Ў ЦЕРАМОЧКУ ЖЫВЕ?"

Суседства з высокім начальствам было бадай непрыкметным для простых гамельчукоў.

— Яны ж начальства, паводзілі сябе спакойна. Сын тут мэраў жыў, дачка, бабуля — мо яго маці ці жонкі. Нармальна так жылі. Музыку гучную не ўключалі, вечарынкі не ладзілі. Паспелі два гады пажыць, а зараз куды падзеліся, не ведаю… Быў у іх яшчэ такі маленькі жоўценькі сабачка. Смешны такі, пародзісты, — расказвае сусед.

Сям'я Піліпца з'ехала адсюль яшчэ да арышту галавы сям'і. Мэра арыштавалі ў верасні, а суседзі кажуць, што ў жніўні тут ужо нікога не было. Зараз сюды наведваюцца толькі следчыя ды спецыялісты па ацэнцы маёмасці.

— Часам сюды прыязджаюць машыны нейкія, штосьці робяць, заходзяць унутр… Ацэньваюць, мабыць. Колькі гэта ўсё каштуе, я не ведаю. Але каб набыць тут участак, трэба многа грошай — цэнтр горада ж. Адна зямля тут колькі каштуе, — кажа былы сусед Піліпца.

**ТАЦЦЯНА БУБЛІКАВА**

# ГОД 2013-ТЫ: “СТАБІЛІЗЕЦ”

**Ніякіх глабальных вынікаў з 2012 года не атрымалася. Да такой песімістычнай высновы прыйшлі эксперты грамадскага аб’яднання «Дыскусійна-аналітычная супольнасць «Ліберальны клуб».**

Беларусь, па сутнасці, засталася ў «замарожаным» становішчы з пачатку 2011 года, пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў.

## РАСТВАРАЛЬНІКІ ЯК ВЫРАТАВАННЕ

Падчас падвядзення вынікаў года эксперт **Антон Болтачка** папрасіў удзельнікаў імпрэзы задумацца над тым, што азначае прадэманстраваны ім малюнак: радасная бабулька з вядром гною на канапляным полі. На яго думку, менавіта так выглядала эканамічная палітыка ў Беларусі ў 2012 годзе. З яго слоў, самая вялікая эканамічная перамога за год — атрыманне ў бюджэт Беларусі ад паўтара да двух мільярдаў долараў прыбытку — па-ранейшаму звязана з Расіяй. Менавіта перамогай Болтачка назваў “разбаўляльна-растваральны” бізнес, які Мінск арганізаваў у абыход пошлін Мытнага саюза.

> «Няма сістэмы, няма логікі, няма разумення, для чаго і чаму прымаюцца законы, як яны будуць рэалізаваны»

«Што б ні казалі расіяне, гэтая схема цалкам легальная, яна не парушае ніякіх законаў і пагадненняў», — падкрэсліў Болтачка. Праўда, цяпер Беларусь можа расплаціцца за «разбаўляльны кайф»: Расія патрабуе кампенсацыі і насцярожана ставіцца да паставак «лішняй» нафты ў краіну: пагадненне аб пастаўках нафты за паўтара тыдня да Новага года не падпісана. «Канаплянае поле» можа павярнуцца «ломкай».







*З даходамі ў 2013-м пакуль усё вельмі няясна*

Што будзе далей, невядома.

## ЗАКОН ШТО ДЫШЛА

Заканадаўчая палітыка па-ранейшаму застаецца няўцямнай. І ў некаторай ступені, на думку **Мікіты Бяляева**, дзесьці і ў чымсьці шызафрэнічнай: «Калі казаць аб прававых навінках 2012, то само слова «навінкі» трэба пісаць з вялікай літары, як назву мінскай псіхлячэбніцы».

Паводле яго слоў, улады браліся за адно, абмяркоўвалі другое, а на выхадзе атрымлівалі трэцяе. «У лютым мы хацелі рэфармаваць рынак страхавых паслуг. Але законапраект аб рэфармаванні» Белдзяржстраху» так і застаўся на паперы, а пытанне аб рэформе страхавой сферы плаўна перацякло ў пытанне рэфармавання прадпрыемстваў-манапалістаў. У выніку, як заўсёды, увялі ў антыманапольныя заканадаўчыя акты штрафы для індывідуальных прадпрымальнікаў, хоць я не ўяўляю сабе ні аднаго ІП, які б мог быць манапалістам у нейкай сферы. Усе манаполіі ў нас дзяржаўныя, і рэфармаваць іх з дапамогай дзяржавы — гэта секчы сук, на якім сядзіш», — упэўнены Бяляеў.

> Што ж тычыцца расійскага напрамку, то, на яго думку, Беларусь вяла ўцягваецца ў Мытны саюз і АЭП «без разумення механізмаў таго, што і як робіцца».

Наогул, гэта цікавая хвароба заканадаўцаў, з якой трэба разбірацца спецыялістам па псіхічнай дзейнасці, лічыць Бяляеў. «Хацелі ўнесці папраўкі ў Бюджэтны кодэкс з мэтай павялічыць адказнасць за непрадуманае выкарыстанне дзяржаўных сродкаў, і ў той жа час прынялі рашэнне аб дзяржпадтрымцы «Белавія», хоць кошты ў гэтай авіякампаніі супастаўныя з прыбытковымі расійскімі кампаніямі. У студзені мы скарачаем усім ільготы на будаўніцтва жылля, а ў красавіку тыя ж ільготы вяртаем ваенным», — сказаў Бяляеў.

«Няма сістэмы, няма логікі, няма разумення, для чаго і чаму прымаюцца законы, як яны будуць рэалізаваны», — адзначыў Бяляеў. І сітуацыя з прыходам новага парламента тут наўрад ці палепшыцца, бо ён не распрацоўвае законы — яны пішуцца ў Адміністрацыі прэзідэнта.

## ЗАХАД І РАСІЯ

Аднак самая вялікая стабільнасць, на думку **Яўгена Прэйгермана**, адзначалася ў грамадска-палітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці. Адносіны з Захадам засталіся стабільна дрэннымі. Не ўразілі эксперта ні парламенцкія выбары, ні вясновы дэмарш паслоў, ні «плюшавае бамбаванне», ні высылка з краіны пасла Швецыі Стэфана Эрыксана.

«Нецікава гэта было таму, што ніякага глабальнага выніку краіна не атрымала», — лічыць Прэйгерман.

Што ж тычыцца расійскага напрамку, то, на яго думку, Беларусь вяла ўцягваецца ў

# ПРАЦЯГНЕЦЦА

Мытны саюз і АЭП «без разумення механізмаў таго, што і як робіцца».

## ВЫБАРЫ: ПАДСЕЧКА ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА

Парламенцкія выбары, па словах Прэйгермана, прынеслі адзін вынік: змяніліся чаканні. Змянення нязменнага прэзідэнта сёння жадаюць усе бакі, але не ведаюць, як гэта можна зрабіць на практыцы. «Як і Захад, так і Расія імкнуцца атрымаць у Беларусі прадказальную ўладу і эканамічную сітуацыю, якая дазволіць правесці прыватызацыю. «Пятая калона» жадае рэфармавання палітычнай сістэмы. Беларускія ўладныя эліты хочуць стабільнасці і паляпшэння эканамічнага становішча, гэта значыць замацавання за сабой актываў і рэнты. Электарат банальна хоча дабрабыту. Але ўсё гэта дасягальна толькі пры нармальнай эканамічнай палітыцы, а яна, у сваю чаргу, магчыма толькі пры змене палітычнай сістэмы», — кажа Прэйгерман.

«У выніку мы ўпіраемся ў тое, што супраць рэформаў выступае толькі адзін чалавек, і ўсе мы ведаем, як яго завуць», — заявіў Прэйгерман. Менавіта таму, на яго думку, агульнае павышэнне заробкаў на 16% не выклікала рост рэйтынгу прэзідэнта, што адзначалася раней.

## 2013 — ЗНОЎ БАЛОТА

У 2013 годзе, на думку Прэйгермана, «усё будзе так, як у 2012». Славутая «беларуская стабільнасць», больш падобная на «брэжнеўскі застой», захаваецца. «Ніякага шчасця нікому айчынная эканоміка не прынясе: мы з пераменным поспехам будзем затыкаць прабоіны ў дне карабля, які тоне. У галіне інтэграцыйных працэсаў прадоўжыцца мяккае ўцягванне Беларусі ў інтэграцыйныя праекты з боку Расіі», — кажа Прэйгерман.

> Адзіны, хто можа нас парадаваць новымі нестандартнымі крокамі, — гэта прэзідэнт

Тое ж самае будзе і па вектары адносін з Захадам. «Лукашэнка хоць сёння можа вызваліць Статкевіча і іншых палітвязняў, але ён не разумее, што гэта яму дасць або што можа даць. Ён можа адпусціць усіх, калі нам тэрмінова спатрэбіцца крэдыт ад МВФ. Пакуль што такой патрэбы няма», — лічыць Прэйгерман.

На думку Прэйгермана, адзіны, хто можа нас парадаваць новымі нестандартнымі крокамі, — гэта прэзідэнт. «Цяпер яму трэба неяк ліквідаваць розніцу паміж чаканнямі беларускага народа і ўласнай палітыкай. Рэфармаваць уласную палітычную сістэму Лукашэнка не можа і не жадае, таму ад яго можна чакаць новых крокаў і гучных заяў, якія створаць хоць нейкія навіны ў будучым годзе», — кажа Прэйгерман.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**




*Лепш па-ранейшаму абяцаць салодкія пеўнікі*

# ЯК ЛЮДЗІ ПРАРЫВАЛІСЯ НА ПЛОШЧУ – УСПАМІНЫ

19 снежня споўнілася 2 гады Плошчы. Масавым вулічным пратэстам на сталічнай плошчы Незалежнасці супраць афіцыйных вынікаў мінулых прэзідэнцкія выбараў. З гэтай нагоды для "Нашай нівы" піша Іван ШЫЛА

## НЕ ЎСТРЫМАЎСЯ.

19-га была нейкая вера ў «лібералізацыю» і ў паехаць мы вырашылі ў гэты самы дзень. Разлічваючы, што дабярэмся без праблемаў. Праўда, не маршруткай, а стопам. І першая машына, якая спынілася нас з Паўлам Батуевым падабраць, была, канечне, міліцэйская.

Нас не затрымалі, аднак. Прыехаў мой бацька, адвёз у горад. Міліцыя, ужо на іншым аўтамабілі, пачала ездзіць за намі паўсюль. Мы спыніліся ля Пашавага дому і зайшлі да яго. Нашыя «апекуны» засталіся на вуліцы. Так доўжылася гадзіны паўтары. Крыўдна было не даехаць да Плошчы і сядзець пад «аховай». Пайшлі на дах і надзіва лёгка выйшлі з дому праз іншы пад'езд.

Паехалі за горад, на чыгуначную станцыю ля аднаго з руднікаў. Чакалі электрацыю да Слуцка, але, тая нешта не прыязджала. Выклікалі таксоўку. Паехалі ў суседні горад. На пастах ДАІ прыгіналіся, каб нас было не відаць. Спэцыфічны выгляд Батуева, наша рэакцыя на людзей у форме і вялікая адлегласць да канцавога пункту маршрута прымусілі кіроўцу пахвалявацца. Патлумачылі, што едзем на выбары. Супакоіўся.

Са Слуцка стопам даехалі да Менска. Перастаў працаваць мабільны інтэрнэт. Сустрэліся з сябрамі, набылі цёплыя рэчы ў ГУМе. Пачаліся праблемы з сувяззю. Патэлефанавала маці. На радыё нешта казалі пра напад на Някляева і гранаты. Было страшна і незразумела, што адбываецца і што будзе.

На Кастрычніцкай спачатку здавалася, што ўсё не так. Але шэсце па праспекце… Так, тады, у нейкі момант верылася, што ўсё магчыма.

Пасля, канечне, стала зразумела, што немагчымае пакуль немагчыма. Адчувалася, што ніхто не ведае, што рабіць. Вітала ў паветры, што рашэнне пра далейшыя дзеяньні прымаць баяцца. Былі выступы, але без канкрэтыкі. Усё чагосьці чакалі ад лідараў, але чаго можна было чакаць ад іншых. Праблема ж у нас саміх была.

Разгон. Уцякалі. Бачыў, як збіваюць людзей. Было зразумела, што затрымалі сотні. Пешшу ішлі ад Незалежнасці да Якуба Коласа. Цэлы паток людзей. Здавалася, усе маўчаць. Званілі сябры з аўтазакаў. Свістам суправаджалі калоны вайскоўцаў, што ехалі па праспекце.

Прачнуліся мы з прэс-канферэнцыяй Лукі. Патэлефанаваў бацька і распавёў, што ноччу быліператрусы і арышты. Было страшна сорамна знаходзіцца на свабодзе. Але на плошчу 20-га я спазніўся.

Паехаў дадому, надрукаваў улёткі і пайшоў раздаваць. Была надзея, што арыштуюць. У твітары Франака Вячоркі прачытаў, што сёння акцыя ля Акрэсціна. Міліцыя, у асобе Ластоўскага, паведаміла, што ўсіх затрымаюць.

Падумаў, што трэба ехаць. Сесці і сядзець разам з усімі сумленнымі людзьмі. Прасцей будзе. Шчотка, паста, цёплыя рэчы, пара падручнікаў у сумку. Паехаў у Менск. На падыходах, у дварах стаялі аўтазакі. Абрадаваўся. «Суткі» падаваліся адзінай магчымасцю адчуваць сабе нармальна і пазбыцца сораму за тое, што ўцякаў ад спецназа на Плошчы.

Але пасля акцыі затрымалі толькі Міхася Пашкевіча, з якім вярталіся дварамі. Я хоць і папрасіўся праехаць з імі, атрымаў адмоўны адказ ад «цiхароў».

Пасля неяк прайшло. І прызвычаіліся. І гэта, напэўна, нармальна.

**ІВАН ШЫЛА**

ТУТ
WWW.SVABODABY.NET

# ХТО Ў БЕЛАРУСІ БАІЦЦА КАНЦА

Мы пацікавіліся, што думаюць некаторыя вядомыя беларусы пра канец свету, які павінен прыйсці на Зямлю ўжо ў гэтую пятніцу. Высветлілася, што ў адных канец свету — ледзь ці не кожны дзень, а другія могуць разважаць на гэтую тэму гадзінамі.



*Канец свету ці канец святла?*

## НЯВЫРАШАНЫЯ ПЫТАННІ МАЗЫНСКАГА

Вядомы ў мінулым тэатральны рэжысёр, а цяпер проста пенсіянер Валерый Мазынскі гаворыць, што акрамя канца свету перад ім стаіць шмат нявырашаных пытанняў.

*— Ну і пытаннечка задаяце... Добра, што хоць не ў панядзелак пытаецеся,* — смяецца Валер Яўгенавіч. *— Ну як я стаўлюся да гэтай тэмы? Можна сказаць, абыякава. Я не задумваюся пра канец свету, бо ў мяне і акрамя гэтага нявырашаных пытанняў шмат...*

## У КРЫЖАНОЎСКАГА КАНЕЦ СВЕТУ — КОЖНЫ ДЗЕНЬ

Мастацкаму кіраўніку Тэатра сатыры і гумару Яўгену Крыжаноўскаму да канца свету прызвычайвацца не трэба — ён у артыста здараецца амаль што кожны дзень.

*— І я ўжо нават прывык да такога стану,* — і жартам, і ўсур'ёз адказвае вядомы артыст. *— Тэатр недзяржаўны — праблем куча! Чацвёра дачок — праблем куча! Пачынаюцца навагоднія святы, карпаратывы — праблем таксама куча! Таму ў мяне ў гэтым сэнсе канцом свету здзівіць ужо немагчыма. І нават калі ён здарыцца па-сапраўднаму, я, магчыма, перахрышчуся, уздыхну свабодна і скажу: ну нарэшце праблемы скончыліся!*

*Між іншым з натхненнем чакаю, каб хоць нешта з таго, што нам абяцаюць, спраўдзілася. А то абяцалі камунізм, і ні хрэна не атрымалася. Абяцалі капіталізм – таксама нічога не атрымалася. Людзі, ну хай хоць канец свету адбудзецца!*

*Але мы яго, вядома, пераджывём…*

## СЯРГЕЙ СКРАБЕЦ РЭКАМЕНДУЕ НЕ ТУРБАВАЦЦА

Палітык і былы бізнесмен Сяргей Скрабец канец свету не адмаўляе. Але ў дадзеным выпадку рэкамендуе не хвалявацца.

*— З размовамі пра канец свету, якія сталі даволі папулярнымі ў апошнія тыдні, неяк нават весялей жывецца,* — усміхаецца Сяргей Мікалаевіч. *— Дарэчы, апошнім часам тэлеканал АНТ узяўся асвятляць гэтую тэму. І ў вячэрнім эфіры было некалькі перадач, дзе нашаму плебсу даходліва тлумачылі, чаму, магчыма, будзе канец свету. Паказвалі, як дэльфіны на бераг выкідваюцца, вулканы актывізуюцца. Звычайна наш ідэалагічна падкаваны глядач у такіх выпадках бяжыць здымаць усе ўклады і пачынае піць-гуляць.*

*З іншага боку, я сам цікаўлюся эзатэрыкай і магу сказаць, што мае сябры парапсіхолагі і агностыкі пасмейваюцца над маючым адбыцца канцом свету.*

“Між іншым з натхненнем чакаю, каб хоць нешта з таго, што нам абяцаюць, спраўдзілася. А то абяцалі камунізм, і ні хрэна не атрымалася. Абяцалі капіталізм – таксама нічога не атрымалася. Людзі, ну хай хоць канец свету адбудзецца!”

*Між іншым канец свету ў кожнага можа быць свой. І для некаторых ён ужо наступіў.*

*Але магу сказаць, што дакладную дату канца свету ніхто не ведае, акрамя нейкіх вышэйшых сіл, якія прыдумалі гэты свет. Але, у прынцыпе, гэтая дата не можа быць вядома навукоўцам альбо тым, хто бачыць будучыню, таму што яна схавана. Можна, канечне, бачыць будучыню чалавека. І ёсць такія спецыялісты, якія падарожнічаюць па часе. Аднак і яны з усёй адказнасцю заяўляюць, што ў найбліжэйшыя пару мільёнаў гадоў канец свету не прадбачыцца.*

*Наогул, згодна з Ведамі, якім шмат мільёнаў гадоў і якія знайшлі ў Тыбеце, чалавецтва пражыве 4 югі: калі-юга, агні-юга, саці-юга і… назву чацвёртай не памятаю. Дык вось, зараз мы жывём у стагоддзе калі-югі: яна для чалавецтва не вельмі добрая, таму што гэты час вызначаецца бездухоўнасцю. Лепш за ўсё дачакацца саці-югі, калі чалавек будзе жыць 1000 гадоў і духоўна будзе больш развіты.*

## ШТО КАЖУЦЬ ВУЧОНЫЯ?

**Ніякага параду планет і канца свету 21 снежня не будзе. Пра гэта днямі заявіў дырэктар абсерваторыі БДУ Альгерд Кузнечык.**

**«У найбліжэйшы час ніякіх пагроз не існуе, а ўся міфічная творчасць — на сумленні тых, хто гэтым займаецца», — прыводзіць belta.by словы астранома з нагоды прадказанняў пра канец свету.**

**На думку вучонага, адзіная магчымая пагроза, пра якую зараз могуць казаць астраномы, тычыцца 13 красавіка 2029 года. У гэты дзень астэроід «Апофіс 99942» пройдзе каля Месяца і накіруецца да Зямлі. Аднак верагоднасць канца свету ў гэтым выпадку таксама малая, таму што, згодна з разлікамі, гэты астэроід (пры верагоднасці 1 да 45 000) можа патрапіць у «люк Кірквуда». У гэтым выпадку праз сем гадоў, на наступным вітку, «Апофіс 99942» можа рушыць да Зямлі. «Але верагоднасць гэтага я ўжо агучыў», — падкрэсліў вучоны. Акрамя таго, ён адзначыў, што ёсць рэальныя спосабы пазбегнуць гэтага сутыкнення.**

**Вучоны дадаў, што чуткі пра канец свету могуць быць выгадныя тым, хто нічога рэальна не вырабляе, у тым ліку банкам і пэўным СМІ.**

# СВЕТУ?

*Адным словам, турбавацца пра канец свету, быццам бы запланаваны на 21 снежня, я не рэкамендаваў бы. Яго не будзе.*

## ЛАЗАВІК ЗАКЛІКАЕ ЗАДУМАЦЦА ПРА РЭАЛЬНЫЯ ПАГРОЗЫ ЧАЛАВЕЦТВУ

Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік да размоў пра канец свету ставіцца з вялікай доляй гумару. І заўважае, што гэта добрая нагода задумацца пра вельмі сур'ёзныя пытанні.

— *Да запланаванага канца свету я стаўлюся з вялікай доляй гумару, хаця варта адзначыць, што гэтыя размовы сканцэнтравалі ўвагу многіх сур'ёзных людзей на тых глабальных пагрозах, якія рэальна існуюць у свеце,* — разважае Мікалай Іванавіч. — *Гэта і пагроза розных прыродных катастроф, цунамі, вывяржэння вулканаў. Гэта і тыя пагрозы, якія нясе тэхнакратычная дзейнасць чалавека: знішчэнне азонавага слою, забруджанне прыроды, экалагічныя праблемы. Само сабой, гэта і праблемы ўзаемаадносін людзей: сёння свет распаляецца за кошт таго, што хтосьці спрабуе навязаць свае парадкі іншым дзяржавам і развязвае грамадзянскія, міждзяржаўныя войны, гатоў развязаць хіба што не сусветную вайну. Таму канец свету, запланаваны на нейкую канкрэтную дату, гэта, канечне, абсурд, але рэальныя пагрозы для чалавека і чалавецтва ў цэлым існуюць. І ў першую чаргу зыходзяць яны ад самога чалавека. Не трэба выключаць і тое, што могуць быць розныя катастрафічныя з'явы прыроднага характару. І чалавеку трэба думаць, як з гэтым усім змагацца.*

## ПАЎЛАЎ БАІЦЦА ЗАСТАЦЦА АДЗІН

Былы прарэктар Белдзяржуніверсітэта Анатоль Паўлаў баіцца зусім не канца свету.

— *Я не баюся ні атамнай вайны, ні сапраўднага канца свету,* — гаворыць Анатоль Васільевіч. — *Таму што самае страшнае ў такіх выпадках — гэта выжыць і застацца аднаму. Без блізкіх і любімых...*

**МАРЫНА МІТ**



*Пятніца пройдзе, а праблемы застануцца*

# 10-ГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ БАТЛЕЙКІ Ў ЛОНДАНЕ

**На мінулых выхадных у сядзібе Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя святога Кірылы Тураўскага «Марыйным доме» (Marian House) у Лондане адбылося першае з традыцыйных калядных мерапрыемстваў — беларуская батлейка. Вечарыну наведаў карэспандэнт «Тут і цяпер».**

## ЛЯЛЬКІ З ПАРЫЖСКАЙ КВАТЭРЫ

Ад часу з'яўлення пасля Другой сусветнай вайны прыкметнай беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі Каляды ўваходзяць у лік яе асноўных святаў. Аднак апошнія 10 год апроч царкоўных набажэнстваў ды калядак па беларускіх хатах неад'емнай часткай святкавання сталі паказы батлейкі — беларускага народнага лялечнага тэатра.

«Роўна 10 год назад у парыжскай кватэры Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі адшукалася скрыня з лялькамі, — распавядае карэспандэнту «ТіЦ» лонданскі праўнік, сябра рады Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі **Павал Шаўцоў**. — Тады я прапанаваў зладзіць на Каляды адмысловы паказ батлейкі».

Адмысловец у беларускай абрадавай традыцыі **Караліна Мацкевіч** знайшла сярод бязмежных скарбаў найвялікшай за мяжой лонданскай Беларускай бібліятэкі-музея імя Францішка Скарыны пісьмовыя прыклады батлеек з розных рэгіёнаў Беларусі. Дыялектныя разыходжанні беларускай мовы былі адаптаваныя да сучаснага маўлення. Дэбютны паказ займеў вялікі поспех сярод беларускай лонданскай грамады і яе брытанскіх сяброў.

«Мы давалі калядныя прадстаўленні два гады, але раптам аб'явіўся ўладальнік лялек, які запатрабаваў калекцыю назад,— кажа Павал Шаўцоў. — Паколькі знайсці замену выявілася не так проста, нам прыйшлося замовіць новыя лялькі ў Беларусі».

На дапамогу суайчыннікам прыйшла беларуская мастачка Алена Ткачова. «Я сустрэў Алену сярод вернікаў яшчэ ў адзін з першых прыездаў на радзіму на самым пачатку 1990-х, — узгадвае рэктар Беларускай каталіцкай (уніяцкай) місіі ў Англіі айцец Аляксандр Надсан. — Яна не толькі выдатная мастачка, але і скульптар, майстар на ўсе рукі і адданая беларуска».

Каб вывезці 16 лялек у Лондан, брытанскім беларусам прыйшлося атрымаць дазвол міністэрства культуры. Балазе бюракратычныя фармальнасці былі пераадолены, і на Каляды 2004-га абноўленая батлейка зноўку сабрала грамадскую залу Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя святога Кірылы Тураўскага. З таго часу паказы адбываюцца штогод. Прычым, апошнія тры гады на дапамогу Паўлу Шаўцову за батлейкавай «сцэнай» прыйшла фатограф і дызайнер **Саша Белавокая**.


*Калісьці батлейка была і такой*

«Тое, што сёння мы даем дзясятую батлейку — адназначная заслуга Паўла, які мае прыроджаныя артыстычныя здольнасці ды так паспяхова пераўвасабляецца ў характэрных герояў беларускага мястэчка, — распавядае Белавокая, якая дала новае жыццё жаночым персанажам. — Як і ў традыцыйнай беларускай батлейцы, наша прадстаўленне складаецца з дзвюх частак: рэлігійнай (кананічнай) і свецкай (народна-побытавай). Традыцыйны біблейскі сюжэт разыгрываецца на верхнім ярусе скрыні-»сцэны», а жанрава-побытавыя сцэнкі — на ніжнім».

Цікава, што кожны год арганізатары батлейкі імкнуцца прынесці ў сцэнар спектакля нешта новае. Гэтак, у якасці музычнай тэмы свецкай часткі сёлета гучаў культавы «Народны альбом».

Па сканчэнні прадстаўлення ўсіх прысутных дзетак чакаў сюрпрыз — калядныя падарункі ад батлейкавага Святога Мікалая. Дарослыя ж атрымалі магчымасць пагутарыць у цёплай сяброўскай атмасферы за кілішкамі віна ды пачастункам.

## КАЛЯДЫ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЮЦЦА!

Але на гэтым беларускія Каляды ў Лондане не скончыліся. 24 снежня а 18-й гадзіне ў беларускай грэка-каталіцкай царкве імя Святых Апосталаў Пятра і Паўла адбудзецца Калядная Вячэрня з Боскай Літургіяй. Паводле традыцыі, пасля вячэрняй службы ў «Марыйным доме» адбудзецца посная куцця. У святочных мерапрыемствах чакаецца ўдзел дыпламатычнага прадстаўніка Ватыкана — апостальскага нунцыя архібіскупа Антоніа Мэніні.

У дзень Раства Хрыстовага 25 снежня а 10.30 тамсама прайшла Боская Літургія.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**

ТУТ
WWW.SVABODABY.NET

# ЗДАЦЬ "ШКЛОТАРУ": ЗАТРАЦІЦЬ БОЛЬШ, ЧЫМ АТРЫМАЦЬ

**Паўсюднае ажыццяўленне кампаніі па асобным зборы смецця, што прапагандуецца ў Беларусі, вельмі тармозіць дысбаланс, які існуе паміж цаной і аб'ёмамі адходаў.**

От населения

| | |
|---|---|
| 1. Макулатура | -300 руб. за 1 кг |
| 2. Плёнка п/э бесцветная | -1500 руб. за 1 кг |
| 3 Плёнка п/э цветная | - 300 руб. за 1 кг |
| 4. Плёнка из прочих полимеров | - 100 руб. за 1 кг |
| 5. Отходы полимеров | - 500 руб. за 1 кг |
| 6. Бутылка ПЭТ | -1500 руб. за 1 кг |
| 7. Стеклобой смешанный | -200 руб. за 1 кг |
| 8. Стеклобой по цветам | - 200 руб. за 1 кг |
| 9. Вторичные текстильные материалы | - 150 руб. за 1 кг |

Цены на основании приказа №283 от 27.09. 2012 г.

Директор УП «Экорес» А.И.Колб

*Расцэнкі на прыём другаснай сыравіны ад насельніцтва.*

## ПА ЦАНЕ 150 РУБ. ЗА КІЛО

Кілаграм ПЭТ-бутэлек, напрыклад, каштуе 1500 руб., а гэта поўны мех з-пад бульбы. 200 руб. — цана за кіло (11 стограмовак) шкляначак з-пад дзіцячага харчавання.

Акрамя таго, 100-, і 200-грамовыя шклянкі беларускай вытворчасці разам з бутэлькамі замежнага вырабу з'яўляюцца нестандартнай тарай, здаць якую можна ў нарыхтоўчых пунктах двух прадпрыемстваў, дзе прымаюць другасную сыравіну ад насельніцтва: КУП «Экорэс» (113 участкаў па Мінску) і ЧУП «Минскоопвторресурсы» (43 пункты).

— «Дзіцячая тара» прыраўноўваецца па цане да шклабою, але спецыяльна біць яе не трэба: дастаткова памыць і зняць накрыўкі, нават этыкеткі змываць неабавязкова, — паведамілі карэспандэнту «ТіЦ» у «Белкоопвторресурсах». — Нашы нарыхтоўшчыкі прымаюць шклянкі ад насельніцтва па цане 150 руб. за кіло, а ў прадпрымальнікаў — па 100 руб. без ПДВ.

## 11 ШКЛЯНАК - ГЭТА НЯПОЎНЫ КІЛАГРАМ.

— Калі на ўчастку няма спецыяльнага кантэйнера для шкла, то можна прывезці тару ў мяшках і пакінуць іх, — расказалі ў галоўным офісе «Экорэс». — Графікі работы ў нашых нарыхтоўшчыкаў розныя, некаторыя і на два пункты адразу працуюць, так што заўсёды трэба званіць — падкажам нумары самага блізкага да вас пункта.

Я вырашыла на практыцы ацаніць праблему суадносін кошту і аб'ёму смецця. Назбіраўшы дома два «бульбяныя» мяшкі шклянак з-пад дзіцячага харчавання, я адвезла іх у найбліжэйшы нарыхтоўчы пункт. Дарэчы, працуе ён тры дні на тыдзень (аўторак, серада, пятніца) і толькі на працягу гадзіны (с 14:00 да 15:00). Трапіць сюды ў такі час чалавеку, які працуе, не надта проста.

Маё «шкляное» смецце заважыла 27 кілаграмаў, за якія я атрымала 5400 рублёў. Гэта кошт трох талончыкаў на праезд плюс 300 руб., але ж даставіць такі груз сваімі сіламі ў грамадскім транспарце проста немагчыма — патрэбна свая машына, амартызацыя і расход паліва ў якой ні ў якім разе не акупяцца такімі грашыма.

— Калі захочаце прывезці яшчэ што, памятайце, што анучы мы прымаем толькі натуральныя: з бавоўны або шэрсці, — прасвятліла мяне нарыхтоўшчыца пункта Лілія Яўгенаўна. — А ПЭТ-бутэлькі лепш сплюшчваць — іх тады ўлазіць два кілаграмы ў поўны мех з-пад бульбы, а ў звычайным выглядзе — толькі адзін, праверана не адзін раз. Шклабой сартыруйце па колерах.

Як бачна, для развіцця культуры збору смецця ў нашай краіне недастаткова аднаго толькі жадання граматна пазбавіцца ад непатрэбных рэчаў: неабходна яшчэ затраціць на гэта час, увагу, цярпенне і... ўласныя сродкі на дастаўку смецця па назначэнні.

**ІРЫНА СІНІЦА**
**ФОТА АЎТАРА**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 20.12.12
Тыраж 299 экзэмпляраў